У нумары: З жыцця нацыянальных меншасцей ● Як працуюць святліцы ● Парады праўніка і агранома

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (269) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 8 КРАСАВІКА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



ПАМІЖ ПАМІДОРАМІ РАСЦЕ АПЕТЫЧНЫ САЛАТ. (ДА «КВЕТКІ Ў СНЕЗЕ», СТАР. 3.)

Фота: Т. Чачкоўскі

# ВЫНІКІ, ЯКІЯ ЗДАБЫВАЮЦЬ ДАВЕР

7 і 8 красавіка г.г. у Беластоку адбудзецца IX Ваяводская справаздачна - выбарчая канферэнцыя ПАРП. Падвядзе яна вынікі дзейнасці за апошнія два гады, якія прайшлі ад VIII канферэнцыі, і вызначыць планы працы на наступны перыяд.

Давайце і мы разам з дэлегатамі нашай партыі, якія ў гэты час будуць абмяркоўваць працу ваяводскай партыйнай інстанцыі, глянем на пяройдзены адрэзак дарогі. Спынімся на справах сельскай гаспадаркі.

Ураджаі 4-х асноўных зерневых культур за гэты перыяд падняліся ў ваяводстве на 15,9%. Нашае ваяводства па вышыні ўраджаяў цукровых буракоў займае шостае месца ў краіне, а па вышыні ўраджаяў бульбы — чацвёртае. Таксама займаем адно з першых месц у краіне па вырошчванню ільну.

Вышэйшыя ўраджаі і павелічэнне хатняй жывёлы прычыніліся да павелічэння скупкі збожжа на 16,6 тыс. тон, бульбы на 46,4 тыс. тон, цукровых буракоў на звыш 76,4 тыс. тон, а скупка жывой вагі ўзрасла ў апошнія гады на звыш 18 тыс. тон.

Значных дасягненняў дабіліся беластоцкія сельгаскааператывы. У 1961 годзе яны атрымалі ўраджаі 4-х асноўных зерневых культур вышэйшыя за сярэднія па ваяводстве, а сельгаскааператыў у Дарожках дабіўся 470 цэнтнераў цукровых буракоў з гектара, займаючы першае месца ў аб'яднанні.

За два апошнія гады на Беласточчыне было створана звыш 500 сельгасгурткоў. Сельгасгурткі аб'ядноўваюць цяпер у нашым ваяводстве звыш 30 000 сялян. У іх карыстанні 390 трактараў і сумежных машын, а таксама 633 малацільных агрэгатаў.

Сур'ёзныя дасягненні маем і ў галіне меліярацыйных работ, якія на Беласточчыне маюць асаблівую вагу, паколькі 32% сельскагаспадарчых угоддзяў нашага ваяводства займаюць лугі, пашы і багны, якія патрабуюць у 80% меліярацыі і загаспадаравання. За апошнія два гады змеліяраваныя лугі і пашы складаюць 26% усіх дагэтуль змеліяраваных лугоў у ваяводстве.

Значны зрух зроблены таксама ў падрыхтоўцы сялян да эксплуатацыі змеліяраваных угоддзяў. У працягу апошніх двух год у ваяводстве было арганізавана 143 водныя суполкі, займаючы гэтым адно з першых месц у краіне.

Гэтыя і шмат іншых мерапрыемстваў, якія партыя рэалізавала, яшчэ больш наблізіла яе да грамадства, здабываючы штораз большы давер. Аб гэтым найлепш гаворыць узрост партыйных радоў. За апошнія два гады ваяводская партыйная арганізацыя павялічылася на 42,3% і на 1.I.1962 года налічвала разам 34.756 членаў і кандыдатаў. Новае папаўненне атрымала партыйная арганізацыя з розных асяроддзяў, але асабліва цэнным з'яўляецца прыплыў у партыю настаўнікаў. За два апошнія гады лік членаў партыі — настаўнікаў павялічыўся ў нашым ваяводстве на амаль 50%.

Гэтыя і шмат іншых фактаў сведчаць, што ўсё большыя асяроддзі нашага грамадства належным чынам ацэньваюць ролю партыі ў нашым жыцці і падтрымліваюць яе лінію.

У гэтыя знамянальныя дні, пажадаем для дэлегатаў Канферэнцыі плённых абрадаў!

ЯН КЭНДЗЕРСКІ

1)

# ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ

Праблематыка звязаная з жыццём нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы, вельмі рэдка закранаецца ў публіцыстыцы нашай краіны. Выплывае гэта з дзвюх прычын: па-першае, нацыянальная праблема ў Польшчы з'яўляецца невялікай, калі ідзе пра яе колькасны аспект, таму што зараз агульная колькасць польскіх грамадзян выхадцаў з асяроддзя нацыянальных меншасцей не перавышае паўмільёна чалавек, што дае каля 2% агулу людзей; па-другое, праблемы гэтай не ведаюць шырэйшыя кругі польскага грамадства. Шмат-лікія асяроддзі перакананы, што Польшча з'яўляецца маналітнай у адносінах нацыянальных, што ў Польшчы жывуць толькі адны палякі. Безумоўна, праўдай з'яўляецца тое, што Народная Польшча ў адрозненні ад даваеннага перыяду перастала быць нацыянальным кангламератам. У міжваенны перыяд паводле даных з 1931 года (Малы Статыстычны Гадавік 1938 год) амаль што кожны трэці грамадзянін падаваў няпольскую мову як сваю родную мову. Народная Польшча пасля вызвалення з-пад гітлераўскай акупацыі сфарміравалася ў асноўным як адзінанацыянальная дзяржава, абаснавана на спрадвечных этнічна польскіх землях. Аднак у нашых межах дабравольна засталіся, жывуць і працуюць польскія грамадзяне іншых нацыянальнасцей.

Колькасна самай вялікай групай з'яўляецца група украінцаў, якая налічвае каля 200 тысяч чалавек, пражываючых на тэрыторыі ўсёй краіны.

(Працяг на стар. 2)



ВІКТАР РУДЧЫК

1)

# СІРАТА СЯМІ НЯНЕК

Гэта старая праўда. Услед за павышэннем матэрыяльнага ўзроўню жыцця неадлучна пашыраюцца культурныя запатрабаванні чалавека. Гэты працэс асабліва наглядна назіраць можам зараз у вёсках. Побач лепшай вопраткі і лепшага абутку ды ўсяго гэтага, што неабходнае для правідловага развіцця гаспадаркі, штораз часцей і штораз больш грошай укладаюць сяляне на прадукты трывалага ўжытку. Купляюць яны радыёпрыёмнікі, адаптары, матацыклы, сціральныя машыны, новую мэблю, і другія рэчы. Запрапануйце селяніну адступіць ад гэтых здабыч цывілізацыі. Не той час.

З гэтых самых прычын — з росту матэрыяльнага ўзроўню жыцця сялян — выяўляюцца іх імкненні да грамадскага культурнага разгарнення, да арганізавання свайго свабоднага часу ў нейкіх канкрэтных рамках грамадскіх суадносін.

Дзеля гэтага патрэбна месца, дзе чалавек мог бы сустрэцца з чалавекам. Такім месцам — маючы на ўвазе сучасныя культурныя запатрабаванні селяніна — можа быць толькі вясковая святліца. Але тут адразу ўзнікае пытанне:

(Працяг на стар. 5)

У Баршчэве (Беластоцкі пав.) кожны вечар святліца запоўнена моладдзю. Пад кіраўніцтвам светліцовай Гелены Канопка моладзь упарадкавала сваю святліцу так, што сапраўды прыемна праводзіцца тут час.

 



Генадзь ЛІПЕНЬ

### НЯЎДАЧНІЦА

Не загарэўшыся,
Пусціўшы толькі дым,
Няўдачніца — запалка прапішчала
— Вось так, мае сяброўкі,
Ўсе згарым,
Карысці з нас і толку мала...

Узважыўшы свой нораў палкі,
Ёй адказалі ў карабку запалкі:
— Маўчала б лепш, «сяброўка»,
Калі няўдалая галоўка

**Песні па заяўках чытачоў**

По просьбе Мечыслава Шэршановіча з Заблудава змяшчаем песню

## Дзяўчыненька, шуміць гай




Дзяўчыненька, шуміць гай,
Каго верна любіш, — не забывай.
Няхай шуміць, хай гудзе,
Ды хто верна любіць, той сам прыдзе!

«Дзяўчыненька, адчыні,
Хаця ж маё сэрца развесялі».
«Ой, не буду адчыняць,
Бо захочаш ночаньку начаваць.»

«Ой, не буду, не буду,
Толькі узыйдзе месячык, як пайду».
Мы сядзелі да зары,
Пакуль стала відненька на двары.

Зашоў месяц і зара,
«Аставайся, мілая, здарова».

# ПУСТАЗВОН

Незнаёмы, прыезджы чалавек, увайшоў у хату і, здымаючы шапку, сказаў:

— Мір у хату гэту! Спадзяюся здароўе не падкачала, і ўсё ў парадку.

Гаспадар замешкаўся:

— Прашу, сядайце. Госць у хату — Бог у хату. Як вы здагадаліся, у мяне ўсё ў парадку. За электраэнергію заплаціў, страхоўку выслаў, на пабудову школ даў...

— Не можа быць?! — здзівіўся незнаёмы. І пра школы не забылі?

— Як можна забыць, зараз вам квітанцыю пакажу, у мяне парадак, — пераконваў гаспадар, рыючыся ў кучы паперы. Пры гэтым ён гаварыў: — Антошка, што за могілкамі жыве, з кожным налогам зацягвае, у яго заўсёды недахоп у грошах. Мы людзі свядомыя, абавязкі свае ведаем. Некаторыя не плацяць, таму ў дзяржаўных фінансах недабор. У краіне такіх плацельшчыкаў, як мух у хаце набіраецца. Іншы, як Лук'ян — цясляр, прапівае, што пад руку падвернецца, а налогі вісяць у даўгах. Я спярша выканаю, што трэба, а потым і выпіць не грэх.

— Пахвальна, — заўважыў госць.

— Само сабою зразумела, — згадзіўся гаспадар. — Справы парадак любяць. Ад гэтага і пашана ў грамадстве і аўтарытэт у грамадскай радзе. Вось вы, напрыклад, з раніцы да вечара хлапочаце, ножкі б'еце, за парадкам наглядаеце. Пахадзіць так па хатах цэлы дзень — страшная мука, ды не кожны гэта разумее. У мяне дэвіз — пра свае справы дбаці ўмей і іншага чалавека разумей. Неадукаваныя мы, а мудрасць жыццёвую ведаем. Часам чалавек жыве па-дурному, проста галінку падпільвае, на якой сядзіць. Вось Міхась не здае гэ[illegible] лішкаў хлеба, а зерне меле і муку прадае на рынку. Як няшчасце здарыцца, барані Багародзіца, кроква падгніе, або ў хаце фундамент асядзе, гэээ не прадасць яму будаўляных матэрыялаў на рамонт. Схопіцца чалавек за патыліцу, ды позна будзе. Або возьмем Яфрэма. Вучыць курыцу гаварыць. Хваліцца, што ўжо яна выгаварвае «ко-ко». Чалавек гадамі адыйшоў, а розумам не дайшоў.

— Гэта так, — згадзіўся госць, — ды толькі...

Гаспадар збялеў і спыніў госця скараговаркай:

— Мо' забыў нешта? Гэта здараецца. З боку заўсёды памылку лепш відаць. Вы, грамадзянін кантралёр, смела скажыце ў чым справа.

Незнаёмы збянтэжыўся.

— Недаразуменне тут, — сказаў ён. — Прыехаў я да вашага суседа, Рыгора, я кум яго. У Рыгора хата на замку, вось і зайшоў я спытаць, мо' ведаеце, калі ён вернецца.

У гаспадара рот прыадчыніўся, быццам збіраўся сказаць літару «о».

Людзі мілыя, мы часта першаму сустрэчнаму пляцем розную несусвеціцу. Язык гаворыць, чаго галава не ведае. Высыпаем бы з мяшка свае і чужыя справы. А што ў гэтым добрага — памяркуйце самі.

*Дзядзька Лявон*



**КУР'ЁЗЫ**

### МОНА ЛІЗА І БОКС

У Луўры не так даўно было ўкрадзена некалькі карцін вядомых майстроў кісці.

Каб зберагчы «Мону Лізу» Леанарда да Вінчы якая знаходзіцца ў Луўры, да яе паставілі персанальнага ахранніка. Ім стаў адзін з мацнейшых французскіх прафесійных баксёраў Арманд Ванучы.

### РАЎНАПРАЎЕ

У змяненне палажэння аб цялесных пакараннях школьнікаў, якое прадугледжвала да гэтага часу дубцы толькі для хлопчыкаў, Гамбургскае школьнае ўпраўленне па просьбе выкладчыкаў закона божага пастанавіла, што школьніцы ўсіх узростаў таксама падлягаюць пакаранню дубцамі ў прысутнасці ўсіх вучняў класа.




### ВЫРАМАНТАВАЎ

Да механіка, які рамантаваў два трактары, падыходзіць трактарыст.

— Вырамантаваў? — пытаецца.

— Толькі адзін.

— Які?

— Не ведаю, спрабаваў завесці — ніводзін не ідзе, — адказаў механік.

Прыслаў
**Эдвард Пшылажынскі**






### ПРАГНЫ БАГАЦЕЙ

У адной вёсцы жыў багаты чалавек. Аднойчы прышоў да яго стары жабрак і просіць:

— Сынок, дай мне чаго паесці.

— Пайшоў прэч, стары! — кажа багацей. — У мяне няма чаго даць.

— Дык мо' знойдзецца ў цябе акраец хлеба? — неадступае дзед.

— Не дам, бо і сам не маю, — адказвае багацей.

— Дык дай мне хоць лыжку вады, — просіць дзед.

— Калі і вады ў мяне няма, — адказвае багацей.

— Тады чаго ты тут сядзіш, — кажа яму дзед — ты ж яшчэ бяднейшы ад мяне. Хадзі, пойдзем у добрых людзей міласці прасіць.

Прыслаў **Пётр Іванюк**

### ЗАДАННЕ

Настаўнік: — Скажы праўду, хто развязаў табе задачу?

Вучань: — Тата.

Настаўнік не дачуўшы: — Сам?

Вучань: — Не, крыху я яму памагаў.

Прыслала **Лена Калехта**

★ ★ ★

### АДКАЗАЎ

Дзядзька Антось паказаў на неба і спытаў:

— Грышка, што мы бачым над галавой?

— Блакітнае неба, — адказаў Грышка.

— Правільна, — згадзіўся дзядзька і зноў спытаў: — А калі ідзе дождж?

— Тады мы бачым парасон.

Прыслаў
**Аляксей Шаховіч**

★ ★ ★

### НЕ ЗДАГАДЛІВЫ

— Верачка, што б ты са мной зрабіла, калі б я цябе ўзяў і пацалаваў.

— Каб ты сапраўды цікавіўся, дык ужо даўно ведаў бы.

Прыслаў **Лёня Федарук**

### У ПАВОДКУ



Яна: — Вася, а дзе наш Валерык?
Ён: — Я яго за руку вяду.

 